# РУНЬ

газэта беларусаў Літвы

10 сьнежня 1998 №19 кошт 1 літ

# БЕЛАРУСЬ ВАЧЫМА АПАЗЫЦЫІ

***Якой Беларусь уваходзіць у 1999 год? Мяркуем, што нашым чытачам напрыканцы 1998-га, калі ўсе сродкі беларускіх СМІ фактычна знаходзяцца ў руках прэзыдэнцкай каманды, а незалежная прэса выходзіць самым мізэрным накладам, — цікава будзе зірнуць на Беларусь вачыма вядомых беларускіх палітыкаў, прадстаўнікоў апазыцыі, якія ў апошнія дні лістападу наведалі Вільню.***



**СЯМЁН ШАРЭЦКІ:**

Нашая рэспубліка перажывае цяпер вельмі цяжкія часы. Верагодна гадоў 8-10 таму ніхто ня мог падумаць, што краіна, якая стала зноў незалежнай, якая атрымала сваю дзяржаўнасьць й пачала разьвівацца па дэмакратычным шляху, — будзе адкінутая назад, па-сутнасьці, у сераднявечча. На жаль, гэта так. Лукашэнка сёньня сканцэнтраваў у сваіх руках усю ўладу, якая толькі мажлівая: ад пажарніка да князя й караля. Сёньня ён узначальвае заканадаўчую ўладу, падабраў і прызначыў сваім указам гэтак званы «парлямант», прызначае ўсіх судзьдзяў, ад раённых да канстытуцыйных. Судзьдзі судзяць людзей не на падставе законаў, а на падставе лукашэнкаўскіх дэкрэтаў. А кішэнны «парлямант» функцыянуе толькі для таго, каб падцьвярджаць правільнасьць таго, што чыніць ягоны гаспадар. Ён ня мае нават заканадаўчай ініцыятывы: усе законы пішуцца ў канцылярыі прэзыдэнта й па-сутнасьці аўтаматычна прымаюцца гэтак званым Нацыянальным Сабраньнем. Больш за тое, Лукашэнка паводле сваёй незаконнай Канстытуцыі мае права выдаваць дэкрэты, і калі яны на працягу трох дзён не зацьвярджваюцца гэтым Нацыянальным Сабраньнем, дык прымаюць сілу закону! І склікаць гэтае Сабраньне ня мае права нават ягоны старшыня, а толькі прэзыдэнт.

І роля Саветаў сёньня гэта ў лепшым выпадку роля дарадчых органаў пры губэрнатары. Саветы нічога не вырашаюць, таму што ўсе старшыні аблвыканкамаў, райвыканкамаў, гарвыканкамаў прызначаюцца самім прэзыдэнтам. Яны патрэбныя толькі для бутафорыі, як пры Мусаліні й Гітлеры йснавалі гэтак званыя «саветы», каторыя штосьці радзілі, калі гэта было патрабна самім дыктатарам.

Адпаведна, як і пры кожным дыктатары, ні пра якое захаваньне правоў беларускага народу й кожнага асобнага грамадзяніна казаць таксама не даводзіцца. Прэзыдэнцкая гвардыя, якая налічвае ўжо больш за 2 тыс. чалавек, затрымлівае й саджае ў турмы кожнага бяз санкцыіі пракурора. Не саромяцца саджаць нават паважаных, шырака вядомых у Беларусі людзей. Сядзяць два дэпутаты Вярхоўнага Савету Клімаў і Кудзінаў. Ужо год сядзіць міністар сельскай гаспадаркі сп. Лявонаў. Амаль два гады адседзела старшыня Нацбанку спн. Віньнікава. Сядзіць двойчы Герой Сацыялістычнай Працы, вядомы ў свойчас як перадавы старшыня, а сёньня — як рэфарматар, які ператварыў свой калгас у квітнеючае акцыйнае таварыства, 74-гадовы Старавойтаў... Увогуле ў нас сёньня затрымліваюць толькі за тое, што чалавек размаўляе па-беларуску: гэтага дастаткова, каб абвінаваціць яго ў нацыяналізьме.

Беларусь, Менск, прэзыдэнцкая кантора сталіся, па-сутнасьці, месцам сканцэнтраваньня ўсёй камуністычнай і імпэрскай нечысьці, якая толькі ёсьць у Беларусі, у Расеі, ва Ўкраіне, Югаславіі й Прыднястроўскай Рэспубліцы. У Менск езьдзяць на кансультацыі й там падсілкоўваюцца ўсялякія Бабурыны ды Ільлюхіны, якія абвінавачваюць усходнеэўрапэйскія краіны, у тым ліку й Літву з Польшчай, што там, маўляў, заселі амэрыканскія спэцслужбы, каторыя толькі тым і займаюцца, што палююць на нашага прэзыдэнта. Туды прыяжджаюць і ў захапленьні зьяжджаюць пракамуністычныя элемэнты Ўкраіны. Лукашэнка падтрымлівае гэткага самага дыктатара Мілошавіча, і не таму, што той правы, а таму што ён, маўляў, славянін.

Увогуле, усе размовы пра нейкую нябачаную яшчэ ў Эўропе «славянскую дзяржаву» ўяўляюць сёньня вялікую небясьпеку для эйрапэйцаў, бо гэтыя размовы маюць пад сабой практычны падмурак: дзеля правядзеньня ў жыцьцё гэтай на першы погляд вар'яцкай ідэі пры прэзыдэньце створаная адумысловая арганізацыя «Славянское единство», дзе запраўляюць у асноўным расейскія палкоўнікі. У гэтак званую «славянскую дзяржаву» Лукашэнка марыць уключыць ня толькі Ўкраіну, але й Прыднястроўскую Рэспубліку зь Югаславіяй. А каб з Прыднястроўя ў Югаславію быў «мосьцік», дык да сваёй дзяржавы ён далучае й Румынію! У «Славянским единстве» вядуцца нават размовы пра тое, што калі раптам Заходняя Ўкраіна не захочыць далучыцца да будучай славянскай дзяржавы, дык давядзецца падзяліць яе напалам (гэтак, напрыклад, лічыць доктар гіст. навук сп. Бабосаў). Дарэчы, зусім нядаўна пасланьнікі Мілошавіча разам з парлямантарыямі Беларусі й Расеі праводзілі сумеснае паседжаньне ў Яраслаўлі. Неспраста таксама й Руская Праваслаўная Царква, каторая заў-

*Працяг на старонцы 6*



* * *

***Кінь вечны плач свой аб старонцы!***
***Няўжо жа цёмнай ноччу ты***
***Ня бачыш, што глядзіцца сонца***
***Ў люстэрка – месяц залаты?***

***Ня згасла сонца? Сонца гляне,***
***Усіх падыйме ада сна.***
***Ён, гэты дзень, яшчэ настане, –***
***І «ачуняе старана»!***

***Я пад яе зімовай маскай –***
***Пад сьнегам – бачу твар вясны,***
***І вее верш мой дзўнай казкай,***
***І ясны ён, як зорак сны.***

***1911***

*Успаміны Я. КахаНоўскай пра Максіма Багдановіча на старонцы 3*




*Кожны кожнаму на Каляды зычыць Вясёлых сьвятаў! Мы, сябры рэдакцыі газэты беларусаў Літвы «Рунь», таксама жадаем вам, шаноўныя чытачы — Вясёлых сьвятаў! Мусіць, нязгоршы калядны падарунак гэта падпіска на нашую газэту? Зрабіце гэты падарунак самыя сабе й падпішэце іншых: каханых, сяброў, блізкіх вам людзей. Сьпяшайцеся! Каляды ўжо блізка!*

## З АБШАРАЎ ВКЛ

Ідэя правядзеньня рэфэрэндуму аб утварэньні канфэдэрацыі Беларусі й Расеі, вылучаная лідэрам беларускіх лібэрал-дэмакратаў Гайдукевічам, не знайшла пакуль што падтрымкі ў кіруючых колах РБ, баяцца, мабыць, што ў зьвязку зь цяперашнім крызісам у Расеі беларускае насельніцтва не прагаласуе за тую «канфэдэрацыю».

Прэзыдэнт Лукашэнка выкрыў прычыну харчовага дэфіцыту ў сваёй краіне. Прадуктаў не хапае, сказаў ён, таму што іх штодня раскупляюць.

Масавая акцыя пратэсту, якую мелі ладзіць 2 сьнежня як «свабодныя», гэтак і «афіцыйныя» прафсаюзы Беларусі, так і не адбылася. Улады, занепакоеныя заплянаванымі дэманстрацыямі працоўных, — дзе падвышкаю зарплаты, дзе пагрозамі й запалохваньнем здолелі прадухіліць іх.

А тым часам цэлы тыдзень працягвалася галадоўка пратэсту дробных літоўскіх прадпрыймальнікаў (чытай — кірмашовых гандляроў) каля сойму Літоўскай Рэспублікі. Новыя правілы гандлю, уведзеныя ўрадам, зрабілі практычна немагчымым іх дзейнасьць, каторай яны змушаныя займацца з прычыны масавага беспрацоўя. Пратэстуючыя галадалі ў палатках у 20-градусны мароз. Адзін зь іх, абураны новымі драконаўскімі законамі, вярнуў сьпікеру сойму Ляндзбэргісу мэдаль «За самаахвярнасьць у абароне Літоўскай Рэспублікі 13 студзеня».

23 лістапада ў Літве зь вялікай помпай адзначалася 80-годзьдзе Літоўскай арміі. Паводле афіцыйных зьвестак Літва распачынае вытворчасьць боепрыпасаў, якія маюць адпавядаць стандартам НАТО й частку якіх будуць экспартаваць у Эстонію й Латвію. Паведамляецца й пра тое, што салдаты ў літоўскім войску прыбываюць на вазе, што ня дзіўна, бо расходы на войска складаюць ільвіную долю бюджэту краіны й пастаянна павялічваюцца.

Салдацкаму меню могуць толькі пазайздросьціць шмат якія грамадзяне Літвы, асабліва працоўныя абутковага аб'яднаньня «Эльняс», дзе здараюцца выпадкі галодных вобмаракаў у цэху. Зарплаты тут ня бачылі з чэрвеня.

Беларусь задаўжала літоўскім энэргетыкам больш як 270 млн. літаў. Аднак адключыць падачу электраэнэргіі немагчыма, бо гэта разбурыць дзейнасьць адзінай энэргасыстэмы, якая лучыць краіны Балтыі, Беларусь і Расею.

Пасьля Новага году літоўскі ўрад зьбіраецца рэзка падвысіць акцызы на нафтапрадукты. Затое цэны на віно нібыта зьменшацца: гэтым намерваюцца адцягнуць увагу аматараў сьпіртнога ад таннага кантрабанднага беларускага сьпірту й гарэлкі. Нядаўняе павышэньне акцызаў на гарэлку прынясло казьне Літвы шматмільённыя страты.

Міністар аховы шляхоў зносін Альгіс Жваляўскас быў змушаны падаць у адстаўку пасьля таго, як зьлётаў на паляваньне ў Швэцыю на прэзыдэнцкім самалёце «Джэтстар», што абыйшлося дзяржаўнай казьне ў 40 тыс. літаў. Дарэчы, паляваньне было няўдалае...

*Падрыхтаваў* **Алег Аблажэй**

## «Туземскія пейзажы»

Выстава-акцыя з такой назвай адкрылася 19 лістапада ў Рускай галерэі. Гэта пэрсанальная выстава менскага паэта й мастака Зьміцера Вішнёва. Сам аўтар лічыць свае акварэлі й графічныя працы за творы ў якіх спалучаецца паэзія, выяўленчае мастацтва й музыка, пра што, уласна, ён і распавядаў на адкрыцьці выставы. Апрача сваіх



«візуальных вершаў» Зьміцер Вішнёў прывёз касэту з запісамі галасоў «бумбамлітаўцаў» — прадстаўнікоў самага навачаснага кірунку ў беларускай паэзіі Бум-Бам-Літа, адным з заснавальнікаў якога якраз і зьяўляецца наш госьць зь Менску. Шмат якія творы з той касэты шакіравалі прысутных сваёй нязвыкласьцю й навізною.

**А. М.**

## «Беларускія, татарскія, украінскія згуртаваньні: ўзаемаадносіны й супрацоўніцтва»

Мэтадалягічны сэмінар з такою назваю адбыўся 21 лістапада ў залі паседжаньняў газэты «Gimtasis kraštas». Сэмінар быў арганізаваны Таварыствам літоўска-расейскага сяброўства (старшыня Б. Грушас). Пра беларускую прысутнасьць у Літве, рух і грамадзкую дзейнасьць распавёў гісторык С. Вітушка. Пра ўздым і заняпады беларускага школьніцтва на Віленшчыне, пра цяперашнюю беларускую школу прамаўляла настаўніца А. Базюк. Украінцы й татары гаварылі пра свае нацыянальныя суполкі, — і ўсе пагаджаліся, што адраджэньне культурнага жыцьця нацыянальных меншасьцяў у Літве зьвязанае з адраджэньнем незалежнасьці Літоўскай Рэспублікі. Наракалі аднак, што сапраўдных кантактаў паміж суполкамі няма, што матэр'яльная падтрымка з боку дзяржавы мізэрная. (Да ведама чытачоў, літоўская дзяржава вылучае штогод на Дэпартамант нацменшасьцяў 1,5 млн. літаў (прыкладна 400 тыс. дал.), зь якіх толькі 150 тыс. выкарыстоўваюцца на падтрымку нацменшасьцяў Літвы. Астатнія грошы йдуць на ўмацаваньне літоўскай дыяспары ў сьвеце. Гэтак ТБК у 1998 годзе атрымала з Дэпартаманту 800 літаў). Удзельнікі сэмінару адзначылі таксама, што апошнім часам уразаюцца правы меншасьцяў на літоўскім тэлебачаньні й радыё, перадачы выходзяць усё карацейшыя і пераносяцца на нязручны час, а татарскую праграму нават скасавалі зусім.

Прамовы выступоўцаў былі цікавыя, зьмястоўныя й нават дзіўныя: так прадстаўнічка ад украінцаў, доктар гістарычных навук Непарожняя, доўга распавядала пра ролю ўкраінцаў у Вялікім Княстве Літоўскім і Рэчы Паспалітай, гэткіх як... М. Сматрыцкі, А. Міцкевіч і з малодшых — М. Багдановіч. Але падобныя гістарычныя «перлы» выклікалі толькі ўсьмешку залі. Зрэшты, шмат якія ўкраінскія навачасныя падручнікі й дапаможнікі гісторыі напісаныя ў падобным духу, і гэта зусім нясьмешна.

Нясьмешна й тое, што літоўскія ўлады ставяцца да нас, беларусаў, карэнных жыхароў Вільні й Віленшчыны, народу, які разам зь літоўцамі быў стваральнікам і «дзеючай асобай» агульнай нашай дзяржавы праз усю гісторыю ВКЛ, — гэтаксама, як да тутэйшых нешматлікіх татараў, бауграў, грэкаў ды іншых сапраўды нацменшасьцяў. Аднак гэта ўжо хутчэй нашая беларуская бяда... Пасьля дыскусіяў была наладжаная пачостка й канцэрт.

**Павал Саўчанка**

## Тэатар «Дзе-Я» зь Менску

на запрасіны кіраўніцтва ЗБГА павінен прыехаць налета з гастроляй у Вільню. «Дзе-Я» цяпер на ўздыме, гэта вельмі знаны ў сьвеце тэатар, а рэпэртуар ягоны складаюць пераважна пастаноўкі паводле драматычнай спадчыны нашага земляка, «бацькі беларускай драматургіі» Францішака Аляхновіча. Таму зразумелае жаданьне артыстаў паставіць ягоныя п'есы менавіта ў Вільні. Ёсьць у рэпэртуары тэатру й захапляльныя п'есы-казкі для дзяцей.

**А. М.**

## Прадстаўнічая група апазыцыйных палітыкаў зь Беларусі

наведала 26-27 лістапада Вільню. Гэта правамоцны старшыня Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня Сямён Шарэцкі, былы сьпікер Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня й старшыня Камісіі Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня па правах чалавека Мечыслаў Грыб, старшыня Камісіі СМІ Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня Уладзімір Нісьцюк, намесьнік старшыні ТБМ Алег Трусаў, намесьнік старшыні БНФ Сяргей Папкоў, вядомы гісторык Анатоль Грыцкевіч, кіраўнік партыі «Правы рэванш» і паэт Славамір Адамовіч, Алег Гулак зь Беларускага аддзяленьня Хэльсінскага камітэту. Зранку 26 лістапада яны мелі сустрэчы ў Літоўскім парляманьце, увечары выступілі перад беларускай грамадзкасьцю ў дамкох ТБК (спатканьне было прысьвечанае чарговым угодкам Слуцкага збройнага чыну), а назаўтра ўраньні правялі прэс-канфэрэнцыю ў Доме журналістаў, дзе прысутнічалі шматлікія літоўскія СМІ. Іхнія выступленьні й асобныя выказваньні чытайце на старонках гэтага нумару «Руні».

**А. М.**

## Цікава

дзе цяпер паломнік Джордж Фларыян Уолтэр з ЗША, які пехатой ідзе ў Ерузалім і які ў верасьні пабываў у Вільні? Мабыць, як і задумваў, зімуе недзе ў Львове, каб зь першым веснавым цяплом прадоўжыць сваё падарожжа ў бок Турцыі. Выгляд у 57-гадовага пілігрыма такі калярытны й ён так падобны да нашага дзеда Мароза, што нам было цяжка ўстрымацца, каб не зьмясьціць ягоны фатаздымак ў навагоднім нумары.

**А.М.**



*Амэрыканскі пілігрым Д. Ф. Уолтэр зь сябрамі ТБМ Ю. Гілём і Л. Вайсьневіч*



## У выдавецтве «Рунь»

распачалася праца над кнігаю Лявона Луцкевіча й Галіны Войцік «Партрэты віленчукоў». Гэтая кніга — галерэя партрэтаў вядомых і малазнаных беларусаў-віленчукоў: грамадзка-палітычных і рэлігійных дзеячоў, літаратараў, навукоўцаў, мастакоў і кампазытараў ад сярэдзіны XIX ст. да нашых дзён. Сэрыю гэтых партрэтаў запачаткавала беларуская пісьменьніца-віленчанка Людзьвіка Сівіцкая-Войцік (Зоська Верас). Ейны пачын быў падхоплены нястомным працаўніком на беларускай ніве Лявонам Луцкевічам, якому шмат дапамагала дачка Зоські Верас Галіна Войцік. Яна сёньня й завяршае гэтую шматгадовую працу. Частку «Партрэтаў» (у скарочаным варыянце) мы ўжо друкавалі на старонках нашай газэты. Паведамляем таксама, што ўжо здадзеная ў друк кніга аўстралійскага беларуса, вядомага грамадзка-палітычнага дзеяча Алеся Алехніка «Пад бел-чырвона-белым (Memento patriam)». Кніга зьявіцца ў сьвет у сярэдзіне студзеня.

**А. М.**

## З нагоды 80-годзьдзя Віленскай Беларускай Гімназіі

Віленская беларуская школа імя Скарыны супольна з ЗБГА стварылі арганізацыйны камітэт юбілейных сьвяткаваньняў. У праграме — урачыстыя акадэміі, музэйныя выставы, публікацыі пра гісторыю гімназіі й пра сучасную школу.

*1 лютага 1999 году*
*споўніцца 80 гадоў*
*з дня заснаваньня славутай*

***ВІЛЕНСКАЙ БЕЛАРУСКАЙ ГІМНАЗІІ.***

*З гэтае нагоды ў Вільні*
*плянуецца арганізаваць*
*музэйную выставу й выдаць зборнік мэмуараў.*
*Ласкава запрашаем адгукнуцца ўсіх,*
*хто мае якую-колечы інфармацыю пра нашую легендарную навучальную ўстанову.*
*Нас цікавяць*
*рэчы, дакуманты, фатаздымкі,*
*якія датычаць гісторыі Гімназіі,*
*а галоўнае — ўспаміны*
*пра ейных настаўнікаў і вучняў.*

*Тэлефон для кантактаў:* ***65 50 69.***
*Адрас для допісаў: Сяргей Вітушка,*
***Kaminkielio 37-27, 2000 Vilnius, Lietuva***

Інфармацыю пра набыцьцё сымбалічнага **грамадзянства БНР** можна атрымаць па тэлефоне: 72 55 95 або 61 65 32.

Збор сродкаў на помнік **Леваніду Каралю.**

75 97 28 ☎ 61 65 32.

# МАЕ ЎСПАМІНЫ ПРА ГІМНАЗІЮ

*Віленская Беларуская гімназія займае асаблівае месца сярод беларускіх навучальных установаў. Яна працавала дастаткова працяглы час — 25 гадоў. Іншыя беларускія гімназіі ў Заходняй Беларусі былі хутка зьліквідаваныя, а ў Вільні пасьпела скласьціся цэлая традыцыя. Гэтая гімназія вылучалася й месцам свайго знаходжаньня: Вільня была цэнтрам грамадзка-палітычнага й культурнага беларускага жыцьця. Пашанцавала гімназіі на выкладчыкаў і кіраўнікоў: амаль усе еўныя працаўнікі былі асобы знакамітыя ў беларускай гісторыі. Пашанцавала й на вучняў: з усёй Заходняй Беларусі зьяжджаліся сюды, як у сваю сталіцу, найбольш здольныя ды прагныя да навукі юнакі й дзяўчаты. Адной з такіх была **Вера Шостак**, успаміны якой працягваюць сэрыю публікацыяў, прысьвечаную 80-годзьдзю нашай легендарнай навучальнай установы.*

*Вядзе рубрыку* **Сяргей Вітушка**



*Настаўніца беларускай мовы Алёна Лекант-Сакалова (у цэнтры) з гімназістамі*



*Гімназісткі Вера Спарычанка (Шостак) і Жэня Шляхтунянка шпацыруюць па вуліцы Вялікай. Вільня. 1936*

Калі я закончыла сёмую клясу беларускай школы ў Навагрудку, польскія ўлады яе зьліквідавалі. На ўсю Заходнюю Беларусь дзеючай заставалася адна Віленская Беларуская Гімназія, і я страціла надзею вучыцца далей. Аднак увосень у Карэлічы прыехаў да бацькоў Барыс Кіта (Кіта – сапраўднае прозьвішча знакамітага цяпер у сьвеце вучонага ў галіне астрафізікі Барыса Кіта), які выкладаў тады ў Віленскай гімназіі фізыку. Дык вось гэты самы Барыс Кіта восеньню 1933-га пачаў «набор» вучняў (якія скончылі сямігодку) у 4-ую клясу ў Вільню для далейшай вучобы. Я праз матар'яльныя цяжкасьці не змагла паехаць у Вільню разам з аднаклясьнікамі ў верасьні й паехала туды толькі ў сьнежні. Дагэтуль я нідзе не была далей Карэлічаў і з жахам думала пра тое, што будзе, калі мяне ня возьмуць у гімназію? Грошай у мяне было толькі ў адзін бок і я баялася, што назад дамоў (210 км!) мне давядзецца йсьці пехатою.

Дырэктарам гімназіі тады быў праф. Радаслаў Астроўскі. Мне добра запомнілася першая размова зь ім:

– А ты, дзяўчо, скуль узялося?

– Прыехала зь вёскі Запольля, што каля Навагрудка. Вучыцца прыехала.

– Цяпер? Сярод зімы?

Я расказала, што калі іншых вучняў забіраў Барыс Кіта, я паехаць не змагла.

– А з кім жа ты прыехала?

– Я сама.

– Дык жа кляса ўжо паўгода вучыцца.

– Я дaганю.

Ад страху, што мяне ня прыймуць, у мяне ўсё паплыло перад вачыма й я ледзь устаяла на нагах... Дырэктар выклікаў п. Алёну Лекант-Сакалову й яна завяла мяне ў інтэрнат на вуліцу Садовую. Кіраўніцай інтэрнату для дзяўчынак была тады п. Грышкевіч, якая жыла там жа, у інтэрнаце, са сваёй дачушкай Рагнедай. Паколькі ў мяне не было ніякай пасьцельнай бялізны, п. Алёна паслала па яе дзяўчатак да сябе дамоў і яны прынесьлі ўсё неабходнае. Гэтак падрабязна я ўсё ўспамінаю дзеля таго, каб чытачы зразумелі, чаму Віленская гімназія была для гімназістаў ня толькі дарогай «у людзі», але й крыніцай чалавечай чуласьці, дабрыні, зразуменьня чужога болю, шчырасьці. Тутака мяне навучылі любіць родны край (які быў раем) і свой народ (які жыў у цемнаце).



*Радаслаў Астроўскі*

Мне трэба было «дагнаць» усе прадметы, асабліва лацінскую мову, якой у Навагрудку зусім не было. І я зубрыла яе ўвесь час. Адзнакі тады ня ставіліся, не было, здаецца, і клясных журналаў, і мы пра свае посьпехі даведваліся толькі з «сьвядэцтваў» за паўгодзьдзе й за год.

Хоць Віленская Беларуская Гімназія была ўжо тады, здаецца, філіяй польскай гімназіі імя Славацкага, – усе прадметы ў ёй вяліся на беларускай мове. Нашыя клясы былі на другім паверсе, а на першым разьмяшчалася духоўная сэмінарыя. У падвале была сталоўка й беларускі музэй. Колькасьць вучняў у клясах была 25-30 чалавек, хлапцоў было больш, чым дзяўчатаў. З замежных моваў была лацінская й нямецкая.

Беларускую мову выкладала Алёна Кірылаўна Лекант-Сакалова, якую ўсе вучні звалі «пані Алёна». Да ўсіх іншых мы зьвярталіся: «пан прафэсар», «пані прафэсар». Пані Алёна была й выхавацелькай нашай клясы. Гэта была жанчына незвычайнай дабрыні й самаахвярнасьці ў справе выхаваньня моладзі. Яна жыла нашым жыцьцём, цешылася нашымі радасьцямі й перажывала нашыя беды разам з намі. Да таго ж яна навучала сваіх гадаванак таму, што павінная ўмець кожная жанчына: шыць, вышываць, накрываць на стол, гатаваць «простую» ежу (у паходах, экскурсіях). Я й цяпер, калі прыходжу на ейную магілу, прашу заўсёды прабачэньня, што так мала ўвагі ўдзяляла ёй, калі яна вярнулася з высылкі. (Па-мойму, яе выслалі толькі за тое, што яна на фота сядзела побач з Радаславам Астроўскім, старшынёю Беларускай Цэнтральнай Рады, утворанай падчас вайны).

Зь вялікай удзячнасьцю ўспамінаю праф. Барыса Кіту, які потым з нашых краёў прывозіў новых вучняў: Марыю Жук, Анюту Бязьмен, Шуру Яўтух ды іншых.

Удзячная нашаму любімаму праф. Анцукевічу, выкладчыку лацінскай мовы.

Ніколі не забуду пана дырэктара, асабліва за тую чуйнасьць, якую ён праявіў у дакой далікатнай справе, як каханьне. Я пабралася шлюбам яшчэ да атрыманьня «матуры» (атэстату аб заканчэньні) ў 7-ай клясе, і пан дырэктар дазволіў мне праз год здаваць выпускныя экзамены экстэрнам. І я ня толькі іх здала, а й паступіла, дзякуючы набытым у гімназіі ведам, у пэдінстытут. Праф. Радаслаў Астроўскі змагаўся за захаваньне беларускай гімназіі й з польскімі ўладамі, і з пракамуністычнымі настроямі ў гімназіі сярод навучэнцаў і настаўнікаў, якія таксама не спрыялі ейнаму захаваньню. Кожны год, напрыклад, перад 1 Маем увечары праводзіўся мітынг на Нямецкай вуліцы. Вывешваўся чырвоны сьцяг, выкрыкваліся камуністычныя лёзунгі, пакуль паліцыянты не разганялі натоўп дубінкамі. На адным з такіх мітынгаў былі арыштаваныя два нашыя гімназісты, Лашэвіч і Пудоўская (іх потым вупусьцілі, але з гімназіі выключылі). Я таксама была на тым мітынгу й цераз некалькі дзён мяне «запрасілі» ў пастарунак (які, дарэчы, знаходзіўся непадалёк гімназіі каля кінатэтра «Аўшра»). Мяне дапытвалі ў пастарунку некалькі разоў, а аднойчы мяне выклікаў дырэктар і сказаў: «Куды ты, дзяўчо, ўблыталася? Мы ж не для таго цябе вучым, каб ты растраціла сябе на дзіцячыя гульні. Ты ж здольная, працавітая, вучыся й ня лезь не ў свае справы. Абяцаеш?» Я паабяцала й, сапраўды, страх перад тым, што мяне выключаць з гімназіі, вылечыў мяне потым ад усялякіх «ізмаў» і партыяў.

Зь цеплынёю ўспамінаю настаўніцу польскай мовы пані Касінскую, якая разам з пані Алёнай таксама вельмі перажывала, калі я пакідала гімназію, лічачы што я, здольная вучаніца, загіну на вёсцы.

Помню праф. Грышкевіча, каторы выкладаў гісторыю старажытнага сьвету. Запомніўся чамусьці ягоны ўрок прысьвечаны старажытнай Спарце, выхаваньню спартанцаў у прыватнасьці. Калі я адказала праф. Грышкевічу, што сыстэма выхаваньне ў Спарце была кепская, бо вучыла не дабру, а злу, ён сказаў: «А Вы ўмееце думаць і рабіць высновы»...

Нізкі паклон вам, мае дарагія настаўнікі, хто жывы, і няхай зямелька будзе пухам тым, хто ўжо адыйшоў у вечнасьць!

**Вера Шостак**

# 9 сьнежня — дзень нараджэньня Багдановіча



*На зямлі Бацькоў. Л Шчамялёў. 1981 г.*

Гэтыя сьціплыя ўспаміны аб Максіму Багдановічу пішу з апавяданьняў маёй маці, Эмілііванаўны Луцкевіч-Шабуні. Яна памерла ў Нью-Ёрку ў 1974 годзе й пахаваная на беларускіх могілках у Нью-Брансьвіку.

У 1911 годзе Максім Багдановіч прыехаў у Вільню і ў рэдакцыі «Нашай Нівы» (на Завальнай, 7) пазнаёміўся зь Іванам і Антонам Луцкевічамі. У тыя часы Максім быў ужо хворы на сухоты, чуўся блага й «хлопцы» (г. зн. браты Луцкевічы) запрасілі яго на лета ў фальварак Ракуцёўшчына, дзе за гаспадара быў іхны родны дзядзька па маці Вацлаў Лычкоўскі. Максім ахвотна пагадзіўся, бо лекары раілі яму больш бываць на сьвежым паветры, добра харчавацца й казалі, што калі ён дацягне да 25-ці гадоў, дык будзе жыць. Усё аднак, на вялікі жаль, сталася інакш. Максіма таксама напаткаў такі самы лёс, як і братоў, якія памерлі, не дажыўшы да 25-ці.

Я разумею, што ўспаміны гэтыя з апавяданьня маёй маці малавартасныя, больш рамантычнага, чым літаратуразнаўчага зьместу... Апрача дзядзькі Вацлава там жыла ягоная сястра Ядвіся Русецкая, а ў тое лета гасьцявала й ягоная пляменьніца, мая маці, з сваёй двухгадовай дачушкай, г. зн. са мной. Максіму было тады 19 гадоў, ён быў дужа прыгожы, для саліднасьці насіў бараду. У Максіма заказалася цётка Ядвіся й рабіла сцэны рэўнасьці маёй маці, кажучы: «Калі я яму падаю гарбату, ён п'е толькі адну шклянку, а калі ты – дзьве!»

Максім вельмі любіў дзяцей, а таму й да мяне ставіўся з такой сымпатыяй: насіў на руках, забаўляў, расказваў нейкія казкі, хоць я яшчэ мала тады магла зразумець. Захапляўся ён прыродай Ракуцёўшчыны, быў вялікім аматарам шпацыраў па ейных маляўнічых ваколіцах. Недалёка працякала крынічка, а перад галоўным домам расла старая, разложыстая ліпа. Падчас тых шпацыраў вяліся размовы пра тагачасную літаратуру й Максім моцна крытыкаваў расейскага паэта Надсана, якім захаплялася тады моладзь (і мая маці таксама), казаў, што вершы ягоныя занадта «эратычныя».

Жыў Максім у садзе, у маленькай хатцы, якую вельмі любіў, кажучы, што яму там добра пішацца. За стол сядалі ўсе разам, у «вялікім доме», і жанчыны пільна сачылі, на каго больш паглядаў Максім і да каго больш усьміхаўся. Усе жанчыны заўважылі, што ў яго вельмі прыгожыя рукі. Наагул, у Ракуцёўшчыны ўсе яго любілі й ён ставіўся да ўсіх з глыбокай сымпатыяй.

**Яніна Каханоўская**
*Нью Ёрк*

# Праваслаўныя сьвятары Вільні 60 гадоў назад

### З фотаархіву прафэсара Пранаса Буцкуса

На фатаздымку 1938-га году мы бачым сьвятароў Рускай Праваслаўнай Царквы горада Вільні. Гэта ўжо прамінулае пакаленьне, якое пакінула свой нязводны сьлед у душах і сэрцах веруючых сучасьнікаў. Бальшыня зь іх пахаваная ў Вільні на праваслаўных Эўфрасіньнеўскіх могілках (вул. Лёпкальнё). Цікава, што сярод магілаў пахаваных тут сьвятароў царскага часу ёсьць магіла Іаана Васільевіча Шверубовіча, бацькі вялікага артыста Качалава.

У міжваенныя гады праваслаўным сьвятарам, як і ўсім іншым жыхарам шматнацыянальнага гораду, давялося жыць у складаны час, поўны пакручастых, супярэчлівых падзеяў, калі ўлады зьменьвалі адна адну часьцей, чым у іншых мясцох цяперашняй Літвы. Людзі гэтага пакаленьня жылі на вастры драматычных грамадзка-палітычных падзеяў, былі сьведкамі й ахвярамі вялікіх трагедыяў.

На здымку першы зьлева сядзіць а. Васіль Бяляеў, сыны якога, Уладзімір і Сяргей, таксама былі сьвятарамі. Гэта прыклад таго, што сярод тагачаснага духавенства таксама былі папулярныя прафэсыйныя дынастыі, як і ў сьвеце сьвецкім, асабліва, сярод людзей мастацтва. Далей мы бачым сьвятара Мікалая Рагальскага й ігуменьню жаночага манастыра Ніну. У цэнтры сядзіць Архіяпіскап Віленскі й Лідзкі (пазьней Віленскі й Літоўскі) Феадосі (1864-1943), пахаваны ў храме Сьвята-Духава манастыра. Зь ім – а. Язэп Дзічкоўскі, які служыў 46 гадоў і па сьлядох якога пайшоў ягоны сын Уладзімір.

Наступны – а. Ігнаці Ярмалюк, каторы загінуў у 1943 годзе ў гітлероўскім канцлягеры, і цераз год пахаваны на Эўфрасіньнеўскіх могілках. Апошні ў шэрагу сядзячых – Ніл Кульчыцкі, бацька якога, Лаўр, і сын Леонці таксама былі сьвятарамі.

У шэрагу стаючых першы зьлева – пратадыякан Адам Мурашка, бацька Лявона Мурашкі, саліста опэры, рэгента архірэйскага хору Сьвята-Духава манастыра й беларускага дзеяча ў Літве. За ім – сьвятары Мікалай Дзям'яновіч і Стэфан Грамадзкі (загінуў у 1944 годзе падчас наступленьня), а таксама пратадыякан Васіль Давідовіч, сын якога, Мікалай, быў сьвятаром, сын Аркадзі – пратадыяканам, а ўнук Мікалай – дыяканам.

У цэнтры стаіць а. Леў Савіцкі (ягоны дзед Леў, браты Ўладзімір і Павел гэтаксама былі сьвятарамі), на дзейнасьці якога варта спыніцца асобна. Ходзіць пра тое, што да 100-годзьдзя царквы Сьв. Эўфрасіньні ў 1938 годзе ён выдаў брашуру «Праваслаўныя могілкі гораду Вільні» – летапіс могілак з дня іхнага адкрыцьця (1796). Падчас вайны а. Савіцкі, будучы сьведкам пахаваньня ў брацкай магіле Эўфрасіньнеўскіх могілак 1151-го чалавека, сярод якіх было шмат ваеннапалонных і жыхароў Вільні, – рызыкуючы жыцьцём, патрабаваў ад нямецкіх уладаў сьпіс закатаваных ахвяраў, прыносіў на могілкі кацялок гарачага супу (можаце сабе ўявіць, што гэта азначала лютай зімой) ды іншую ежу для галодных ваеннапалонных і жыдоў, якія закапвалі растраляных і памерлых ад голаду й хваробаў. Сёньня на гэтым месцы – мэмарыял, адкрыты 30 красавіка 1997 году.

У мундыры афіцэра войска польскага – вайсковы сьвятар Аляксандар Сурвіла, пахаваны на праваслаўных могілках Воля ў Варшаве. За ім – а. Антоні Керковіч, сын якога, Георгі, таксама быў сьвятаром. Наступны – а. Уладзімір Бяляеў (1903-1990), сын ужо спамянутага Васіля Бяляева, які пабываў у ссылцы. Ён – будучы Архіепіскап Віленскі й Літоўскі Віктарын, пахаваны ў храме Сьвята-Духава манастыра.

Скрайні зправа стаіць сын каўнаскага сьвятара Канстантына Багаткевіча а. Іаан, дачка якога Ірына Багаткевіч-Шляжэне й прэзэнтавала гэты цікавы фатаздымак Але Агіевіч Буцкене, маёй жонцы, дзед і абодва прадзеды каторай таксама былі сьвятарамі, а бацька –рэгентам архірэйскага хору Сьвята-Духава манастыра. Пратаірэй Іаан Багаткевіч быў неабыякавы да паэзіі, пісаў вершы. Ён з усіх засьнятых на фатаздымку быў апошні, хто сыйшоў з жыцьця (1996). Менавіта ён і а. Ніл Кульчыцкі выкладалі Закон Божы ў Віленскай Беларускай Гімназіі.

**Пранас Буцкус**



*Праваслаўныя сьвятары Вільні ў 1938 годзе*

# Вінцэнт Гадлеўскі

### Да 110-годзьдзя з дня нараджэньня

Істотную ролю ў беларускім нацыянальна вызваленчым руху ў Заходняй Беларусі грала беларуская хрысьціянская дэмакратыя. Ёй было наканавана змагацца з антынародным польскім каталіцкім клерам, каторы служыў шавіністычным колам, што адмаўлялі права беларусаў на самавызначэньне. Сярод шэрагу выдатных постацяў беларускіх каталіцкіх сьвятароў, якія рэпрэзэнтавалі сабою стойкіх змагароў за незалежнасьць Беларусі, пачэснае месца займае кс. Вінцэнт Гадлеўскі, «беларускі дзяржаўны муж і барацьбіт», як ён быў слушна названы ў аднэй замежнай публікацыі дзесяцігадовай даўнасьці. Вядома ж, ва ўмовах марыянэткавай Савецкай Беларусі ўпамінаньне пра яго й ягоную пакутніцкую сьмерць з рук нямецка-фашыстоўскіх акупантаў быў пад забаронаю.

Вінцэнт Гадлеўскі нарадзіўся 16 сьнежня 1888 году ў мястэчку Поразава Ваўкавыскага павету на Гародзеншчыне. Бацькі былі сяляне, мелі свой надзел зямлі, і зь сялянскім побытам Вінцэсь быў знаёмы зь дзяцінства. Мяркуючь, што пачатковую школу ён наведаваў у Поразаве, а прагімназію скончыў у Сьвіслачы. У 1908 годзе паступіў у Віленскую каталіцкую духоўную сэмінарыю. Там паказаў сябе як самы здольны з усяго свайго курсу сэмінарыст. Дзеля гэтых здольнасьцяў у 1912 годзе за кошт дыецэзіі быў пасланы ў Пецярбург у духоўную акадэмію для далейшай навукі.

Падчас Вінцэсевай вучобы ў Віленскай сэмінарыі там ужо была цэлая грамада сьвядомых беларусаў, будучых сьвятароў, такіх, як Станіслаў Глякоўскі, ягоны зямляк Антон Шышка, Язэп Рэшаць, Язэп Германовіч, Уладыслаў Талочка, Адам Станкевіч ды іншыя. Гэта й дапамагло Вінцэнту Гадлеўскаму самавызначыцца як беларусу, тым больш, што ў бібліятэцы сэмінарыі меліся беларускія кнігі, часопісы й газэты, якія таксама дапамагалі ягонаму нацыянальнаму ўсьведамленьню.

У Пецярбурзе Гадлеўскі браў удзел у стварaным там беларускім гуртку, якім кіраваў і духова апякаваўся прафэсар Браніслаў Эпімах-Шыпіла. Як згадваў іншы наш выдатны духоўны дзеяч, прэлат-доктар Татарыновіч, ксёндз Вінцэнт Гадлеўскі быў адным з самых здольных беларускіх абсальвэнтаў каталіцкай акадэміі ў Пецярбурзе. Скончыў акадэмію Вінцэнт у 1916 годзе з навуковай ступеняй магістра тэалёгіі.

Пасьля акадэміі Гадлеўскі падаўся ў Менск, у самую гушчу беларускага жыцьця, дзе на той час была адноўленая Менская каталіцкая дыецэзія. Ён быў арганізатарам Першага зьезду беларускага каталіцкага духавенства ў траўні 1917-га, быў адным са стваральнікаў Беларускай хрысьціянска-дэмакратычнай злучнасьці, чытаў лекцыі, супрацоўнічаў у газэце «Крыніца». У сьнежні 1917 году быў удзельнікам Першага Ўсебеларускага Кангрэсу, які паклікаў да жыцьця Раду БНР. І хаця Беларуская Хрысьціянская Дэмакратыя не мела істотнага ўплыву на фармаваньне БНР, тым ня менш пачынаецца працэс беларусізацыі каталіцкай царквы, да чаго актыўна падлучыўся й Вінцэнт Гадлеўскі. У лістападзе 1918 году ў Менску была адкрытая Беларуская духоўная сэмінарыя, і беларускі адраджэнскі рух сярод каталіцкіх вернікаў трываў ажно да падзелу Беларусі паводле злачыннай Рыскай дамовы. Пасьля падзелу Вінцэнт Гадлеўскі перабраўся ў Вільню, увайшоў у Беларускі нацыянальны камітэт, які складаўся з прадстаўнікоў розных партыяў і быў нацыянальным прадстаўніцтвам Заходняй Беларусі.

У 1921 годзе Гадлеўскі быў прызначаны пробашчам у мястэчка Жодзішкі, непадалёк Вілейкі, дзе была каталіцкая парафія. У 1924 пачаў казаць у сваім касьцёле першыя казаньні па-беларуску. Дзякуючы намаганьням і рабоце новага пробашча, Жодзішкі сталіся хутка цэнтрам беларусізацыі вернікаў усёй ваколіцы. Гэта выклікала незадаваленьне польскіх уладаў, каторыя шляхам розных правакацыяў дамагліся арышту Гадлеўскага (у чэрвені 1925). Суд апраўдаў яго, але ворагі беларушчыны на гэтым не супакоіліся. Вінцэнта Гадлеўскага зноў арыштавалі, але засудзіць яго зноў не было падставаў (верасень 1925). І толькі ў сакавіку 1927 годзе на падставе сфабрыкаваных абвінавачваньняў яго вывезьлі ў Варшаву й асудзілі на два гады зьняволеньня. Дзякуючы амністыі, ён выйшаў з Макатоўскай турмы ў Варшаве ў 1928 годзе.

З 1928 году жыў у Вільні, перакладаў на беларускую мову Новы Запавет, быў шырака вядомы ня толькі ў каталіцкіх беларускіх колах: ён уваходзіў таксама ў Таварыства беларускай мовы, нейкі час быў старшынёю Беларускага інстытуту гаспадаркі й культуры, выдаваў газэту «Беларускі фронт».

Падчас Другой сусьветнай вайны, як толькі стала магчымым аднавіць беларускую сыстэму адукацыі, што была амаль цалкам зьнішчаная ва ўмовах польскай акупацыі й савецкага тэрору, – Гадлеўскі згадзіўся абняць адказнае становішча Галоўнага школьнага інспэктара Беларусі. Пасьпяховае разьвіцьцё беларускага школьніцтва ў гады ваеннага ліхалецьця адбывалася ня дзякуючы новым нямецкім акупантам, а насуперак іхняму рэжыму. Школкі трымалісяма перадусім на ахвярнай і пачасту небясьпечнай працы беларускай сьвядомай інтэлігенцыі... Напрыканцы 1942 году Гадлеўскі быў арыштаваны гітлероўцамі й растраляны.

Бескампраміснае змаганьне Вінцэнта Гадлеўскага за правы свайго народу, за асьвету й царкву на роднай мове прынесьлі яму шмат пакутаў, але ж ягоная самаахвярнасьць і патрыятызм завазвалі яму ўдзячнасьць простага народу й пашану з боку беларускай інтэлігенцыі. Лёс Вінцэнта Гадлеўскага вымоўна сьведчыць, што змаганьне за родную мову ў сьвятынях і асьвету для народу заўжды было ахвяраю на алтар беларускага адраджэнскага руху.

*з сэрыі «Партрэты віленчукоў»*

**Лявон Луцкевіч**



*Стаяць: В. Гадлеўскі й С. Глякоўскі. Сядзяць: А. Станкевіч, невядомы, Я. Германовіч*

# Дасьледчыца з Барвінішак

Вікторыя Міхайлаўна Жалняровіч жыве недалёка ад Шумску, у вёсцы Барвінішкі, каля самай літоўска-беларускай мяжы. Прыехала яна сюды маладой дзяўчынай адразу пасьля вайны, у 1946 годзе, з Магілева, на запросіны цёткі, якая працавала правізарам. Прыехала, каб вучыць дзяцей, хоць за плячыма была толькі дзесяцігодка й двухмесячныя настаўніцкія курсы. Працавала настаўніцай прагімназіі, а з 1947 па 1977 год была загадчыцай і настаўніцай Віндзюнскай пачатковай школы Шумскага раёну. Вучыла дзетак і адначасна вучылася сама: у 1958 годзе скончыла настаўніцкі інстытут у Новай Вілейцы.

Цяпер яна даўно ўжо на пэнсіі, і хоць жыве адна, але не адчувае сябе самотнай, бо ўвесь вольны час прысьвячае ўлюбёнай справе. Вікторыя Міхайлаўна яшчэ ў маладосьці зьвязала сваё жыцьцё й лёс з гісторыяй роднай цяпер ёй Шумшчыны. Яна зьбірае матар'ялы пра помнікі мясцовай архітэктуры й культуры, пра тутэйшых людзей, складае іхнія радаводы. Спн. Вікторыю почасту можна бачыць у архівах Вільні, Менска, Польшчы. Яна зь вялікай ахвотаю сустракаецца з тымі, хто можа нешта новае распавесьці пра дарагую ейнаму сэрцу Шумшчыну.

І ў самой Вікторыі Міхайлаўны за годы нястомнай працы назапасіўся багаты архіў з запісаў, фатаздымкаў, прадметаў тутэйшай матар'яльнай культуры. Мае яна й свае адкрыцьці. Так яна высьветліла, што Шумск заснаваны болей за 300 гадоў таму назад пасьля таго, як баярам Шумскім вялікакняскім прывілеем было дазволена купіць тутэйшыя землі. Шумскія й назвалі свае ўладаньні Шумскам. Яны пабудавалі тут ня толькі вялікі, у стылі клясыцызму палац (які, дарэчы, амаль што без разбурэньняў ацалеў да нашага часу) – але й разьбілі вельмі цікавы францускі парк, рэшткі якога таксама захаваліся. Захаваліся ў напаўразбураным выглядзе й разнастайныя гаспадарчыя пабудовы радавога гнязда Шумскіх, для будаўніцтва якіх шырака выкарыстоўваўся мясцовы матар'ял – валуны.

На Шумшчыне пачынаецца Медніцкае (або Ашмянскае) ўзвышша з вельмі прыгожымі краявідамі. Ад парку Шумскіх і да самага небасхілу цягнуцца хваёвыя лясы, а ў самым парку – старыя ліпы, клёны і – самае дзіўнае – завезеныя сюды здалёку туі. Крыху ніжэй ад палацу была пракапаная цэлая сыстэма сажалак, адна зь якіх захавалася дагэтуль і дзівіць сваёй чысьцінёй і празрыстасьцю: ваду зь яе можна піць…

Маёнтак Шумскіх, распавядае Вікторыя Міхайлаўна, пачаў прыходзіць у заняпад яшчэ ў 70-ыя гады мінулага стагодздзя, бо апошні з Шумскіх, Станіслаў, і ягоная жонка князёўна Мірская былі замешаныя ў паўстаньні 1863-га году, праз што былі перасьледаваныя царскімі ўладамі й змушаныя прадаць маёнтак іншым гаспадарам. Апошняя гаспадыня палацу, адзінокая пані Камарова, памерла ў 1944 годзе й пахаваная на могілках у Шумску.

Спн. Вікторыя ведае й шмат курганаў на адлегласьці паўтары-два кілямэтры ад Шумска. Іх каля 25-ці. Бальшыня зь іх мае даволі вялікія памеры: 18 на 15 м і 1-1, 5 м вышынёй. У 1882 годзе праф. Пакроўскі дасьледаваў некаторыя зь іх і выявіў пахаваньні 7-8 ст. Былі знойдзеныя мэталёвыя пярсьцёнкі, спражкі, фрагмэнты ланцужкоў і вугольле ад вогнішчаў. Гэта сьведчыць пра тое, што тутэйшыя мясьціны ўжо ў сівую даўніну зьведалі прысутнасьць чалавека. «Добра, што гэтыя курганы зарасьлі кустоўем і дрэвамі, – кажа Вікторыя Міхайлаўна, – і іх не разрабавалі сёньняшнія «дасьледчыкі».



*В. Жалняровіч і П. Саўчанка каля ганку палаца Шумскіх*

Дзякуючы працы ў архівах, а таксама з успамінаў сваіх сваякоў па мужу й мясцовых сялянаў яна высьветліла паходжаньне прозьвішча Жалняровічаў. Карані ягонага пачынаюцца на тутэйшай зямлі з 1812 году. Халодная лютай зімой францускія жаўнеры сьпешна адыходзілі на захад, а за імі на фурманках ехалі маркітане-гандляры, якія забясьпечвалі напалеонаўскую армію правіянтам. У час адной атакі рускіх войскаў маркітане згубілі хлопчыка, якога знайшлі ля дарогі рускія жаўнеры й аддалі на выхаваньне заможнаму селяніну з Барвінішак. Хлопчык размаўляў толькі па-француску, а паколькі яго аддалі ў новую сям'ю жаўнеры, дык і празвалі яго Жалняровічам. Калі хлопец вырас, прыёмны бацька ажаніў яго на сваёй дачцы (відаць праз тое, што хлопец быў разумны й прыгожы) даў у пасаг палову сваёй зямлі. Так і пачаўся род Жалняровічаў, якіх і сёньня тутака нямала.

Вікторыя Міхайлаўна, нягледзячы на свой немалады век, выглядае молада, яна вельмі рухавая й, як кажуць, лёгкая на нагу жанчына, асабліва, калі трэба некуды паехаць па матар'ялы й архіўныя дадзеныя ці сустрэцца з патрэбнымі людзьмі. Амаль усе свае невялікія пэнсійныя грошы яна траціць не на ўласны дабрабыт, а на кнігі, дарогу, на пошукі й знаходкі… Цікава нам было сустрэцца з чалавекам, які ня здрадзіў свайму юнацкаму захапленьню, пранёс яго праз усё жыцьцё. Плёну Вам, Вікторыя Міхайлаўна, доўгіх гадоў жыцьця й новых знаходак у Новым 1999-ым годзе!

**Павал Саўчанка**

# СЛОВА ПРА ДУХОВАЕ РАЗДВАЕНЬНЕ



*Польскі пісьменьнік і мой даўні знаёмы **Зьбігнеў Жакевіч** жыве ў Гданьску. Праз усё сваё жыцьцё й асабліва на схіле дзён (яму 66 гадоў) ён усё больш і больш задумваецца над праблемаю сваёй нацыянальнай тоеснасьці: паходзіць ён зь беларуска-літоўскай шляхты, а ягоная «малая Радзіма» — Віленшчына, адкуль ён юнаком зьехаў у Польшчу ў 1946 годзе, ратуючыся ад бальшавікоў. У Зьбігнева Жакевіча вельмі мяккі, інтэлігентны й арыгінальны погляд на сваё «духовае раздваеньне», ён зь вялікай сымпатыяй ставіцца да ўсіх народаў былой Рэчы Паспалітай, па-філязофску глядзіць на складанае — і вельмі балючае сёньня для беларусаў Віленшчыны дый Гародзеншчыны — пытаньне «мяшанства».*

**А. М.**

Агульнавядомае вобразнае акрэсьленьне Ежы Лібэрта (1904-1931), галоўнага каталіцкага паэта II Рэчы Паспалітай... пра Польшчу й сталіцу, што «Гэта ёсьць ані Захад, ані Ўсход: штосьць такое, нібыта стаіш у дзьвярох». Гэтую слушную ў аснове канстатацыю трактуюць як довад нашай духовай і цывілізацыйнай горшасьці.

Зыходзячы зь іншага пункту гледжаньня й не арыентуючыся ані на Ўсход, ані на Захад, Вітольд Гамбровіч з польскай недасьпеласьці зрабіў галоўны козыр сваёй творчай працы. Крытык Ежы Ястшэмбскі так выклаў гэтую пазыцыю: «Гамбровіч паходзіў з краю выключна багатага бясхітраснымі істотамі, недасканалымі, пераходнымі, дзе на нікім ніводзін каўнерык не ляжыць належным чынам, дзе ня толькі Смутак і Доля, але Нягода й Нядоля па палёх снуюцца й енчаць. Адтуль — сьцьвярджае Гамбровіч — нашае нявольніцтва недафармаванасьці».

Іншы вялікі польскі празаік Тэадор Парніцкі (1908-1988)... пачаткова свой цыкл аповесьцяў хацеў назваць «Сьвет мяшанцаў», аднак «зь цягам часу прыйшоў да высновы , што мяшанцамі ёсьць усе людзі, зь ім самім на чале».

Мушу прызнацца... што праблема недасьпеласьці, мяшанства ці то Лібэртавага «стаяньня ў дзьвярох» ад пачатку была для мяне галоўнаю жыцьцёваю й творчаю праблемаю, бо яна датычыць маёй тоеснасьці. Вынікае гэта зь біяграфіі чалавека, які зароўна й па бацьку й па маці цалкам паходзіць зь земляў Вялікага Княства Літоўскага (Жакевічы ўзгадваюцца першы раз у 1528 годзе, на Жмудзі). У Польшчу я прыехаў у 1946 годзе, калі мне было 14 гадоў, і ад таго часу ўсьцяж разьдзёрты паміж Віленшчынаю й цэнтральнаю Польшчаю. Галоўным дэвізам, якім праз доўгія гады акрэсьліваў сваю тоеснасьць, былі Крэсы. Дзесьці напачатку 70-х пісаў: «Людзі даўніх Крэсаў, як ніхто сёньня ў Польшчы, адчуваюць сябе дзецьмі Прыроды. Агортваюць нас ейныя дрыготка й жах. Як дзеці любім «цямкаць», «сёрбаць», «драпаць», — стуль нашыя грыбы, рыбы й вяндліна. Сэрца нашае схільнае да жывёлаў і жывёлы яго ўпадабалі. Падобна, што мы дабрадушныя, але памятлівыя, наіўныя й хітрыя, сэнсуальныя й хуткія да містычных узьлётаў. Гісторыя ня ёсьць для нас мінуласьцю, яна трывае ў нашым Сёньня. Бо, як і дзіцячая, памяць нашая ня ёсьць доўгая, але ўпартая. Кроў нашая зьмяшаная з крывёю шмат якіх народаў, абдарыла нас вечным непакоем мяшанцаў, зрабіўшы нашую натуру падатлівай, схільнай да парадоксаў і спрошчанасьцяў. Бачылі мы шмат адхіленьняў па-за мяжою малай Эўропы, а ўсё ж памяць Эўропы цярпліва зьберагалі, як сьцярог свой мяшэчак з сольлю бедны Паляшук. Эўропа была для нас той карэннай прыправай, якая надавала смак нашым рыбам, грыбам і вяндліне»...

На XYII Кашубска-Паморскіх спатканьнях ва Ўдзудзах восеньню 1987 году я прачытаў рэфэрат «Ці зьяўляецца Кашубія Крэсамі? Пару заўвагаў на тэму Крэсаў і Крэсавасьці». Быў ён уступам да агульнай дыскусіі. Галоўным намерам... рэфэрату быў пошук супольнага азначэньня для дасьледаванай Кашубіі й маёй страчанай Віленшчыны. Мовіў тады пра ізатэрмы іхняга духовага й псыхалягічнага радзтва, якое доўжыцца ад падзелаў Рэчы Паспалітай...

Калі аднак добра зьезьдзіў Польшчу й прыпомніў нядаўнія выезды ў Беларусь, Украіну й Расею, дык зразумеў, што ўласна цэлая Польшча ёсьць Крэсамі: калі глядзець зь Менску ці Кіева —... Захадам, а калі глядзець з Бэрліну ці Парыжу — Усходам. Ці ня з гэтага раздваеньня вынікае нашая ніякасьць, гамбровічаўская недафармаванасьць? Паслухаем жа, што мовілі на тэму быцьця мяшанцаў... нашыя пісьменьнікі й гуманісты.

Чэслаў Мілаш, разглядаючы творчасьць Станіслава Вінцэнза... піша: «Застаецца фактам, што шалёныя шляхцічы, зрошчаныя з няпольскаю этнічнаю глебаю, верхаводзілі ў нейкі спосаб над сваімі пабрацімамі з Каралеўства Польскага. Вінцэнз, з'украінізаваны й зжыдоўлены дакладна настолькі, наколькі трэба, каб у ім увасобіліся ўсе тры пачаткі ягонай радзімы, зьяўляецца нашчадкам племені, якое запачаткавала магутныя фэрмэнты. Бо кім былі — Нарбут са сваёй гісторыяй Літвы, Міцкевіч выгадаваны на беларускім фальклёры, Ян Чачот са сваімі беларускімі вершамі, Сыракомля, Апалон Кажанеўскі й, дзякуючы радзімым плямам — Ёзэф Конрад?»

Ежы Стэмповскі, супрацоўнік «Культуры» на эміграцыі, пісаў у сваіх эсэях: «Цэлая велізарная частка Эўропы, што ляжыць паміж Балтыцкім морам, Чорным морам і Адрыятыкаю, была адной вялікай шахматнай дошкай народаў, поўнай выспаў, анклаваў найдзіўнейшых камбінацыяў насельніцтва й мяшанства... У маёй роднай даліне Днястру зямяне мовілі па-польску, сяльчане па-ўкраінску, ураднікі па-расейску, купцы па-жыдоўску. Усе тыя моўныя й нацыянальныя адценьні знаходзіліся ў цякучым стане. Сыны Палякаў няраз станавіліся Ўкраінцамі, сыны Немцаў і Французаў Палякамі. Таямніца тых дзіўных і завілых працэсаў была простая — у тамтэйшыя часы нацыянальнасьць не набыла характару незваротнай расавай фатальнасьці — была справаю вольнага выбару».

І тут падыходзім мы да капітальнага назіраньня, якое робіць Стэмпоўскі, супрацьстаўляючы нацыянальным фаталізмам, якія агарнулі сёньня маладыя народы Эўропы, — вольнасьць выбару, перад якімі стаяць «мяшанцы» Парніцкага. Ён піша: «Нутраное жыцьцё нацыянальных групаў паглыблялася й рафінавалася праз штораз новы індывідуальны выбар. Выбар жа вымагае разьвязаньня прынамсі двух альтэрнатываў у ва ўсёй іхняй шырыні, вымагае стаяньня на раздарожжы, з каторага бачныя знутры абедзьве дарогі. Для майго дзяцінства даўнія Крэсы Украінскія былі гэткім вялікім раздарожжам, зь якога, апрача ўсіх пабочных сьцежак, выходзілі чатыры дарогі: адна вяла да Кіева, другая да Кракава, трэцяя да Пецярбургу й чацьвертая да Палестыны».

*Працяг у наступным нумары*

**Зьбігнеў Жакевіч**

Праця́г са старонкі 1

# БЕЛАРУСЬ ВАЧЫМА

сёды была й ёсьць праваднікам расейскай русіфікатарскай палітыкі, у асобе Патрыярха Маскоўскага Ўсяе Русі Алексія II ўзнагародзіла Лукашэнку сваім ордэнам, як «воссоединителя славян».

У Менску цяпер адкрыта пачынаюць патрабаваць вяртаньня ў Беларусь ядзернай зброі. Нядаўна Лукашэнка заявіў у Расеі, што была зробленая памылка, калі ядзерныя ракеты вывелі зь Беларусі. А ягоныя радцы, расейскія палкоўнікі, выдаюць такія заявы за абарону нацыянальных інтарэсаў РБ.

Катастрафічнае сёньня эканамічнае й сацыяльнае становішча насельніцтва Рэспублікі Беларусь, якое нечуванымі тэмпамі (на 30-40 тыс. штогод) зьмяншаецца. Павялічваецца дзіцячая сьмяротнасьць, бо няма нават самых неабходных лекаў, і іх ня купіш ні за якія грошы. Сёньняшні мінімальны заробак у Беларусі — 1$! У нас нядаўна памёр дэпутат Вярхоўнага Савету, дык я аддаў за вянок... чатыры мінімальныя зарплаты! У нас цяперака стала не тое, што цяжка жыць, а й паміраць цяжка. Людзі нашыя проста перабіваюцца з вады на хлеб, бо прывыклі выжываць у самых экстрэмальных умовах за кошт бульбы ды сваіх прысядзібных участкаў. Як вы бачылі, напэўна, па маскоўскім тэлебачаньні, сёньня ў Беларусі чэргі за 1,5% парашковым малаком, за яйкімі, маслам і цукрам, — усё, як тое было, скажам, у 50-ыя гады, ці, хто помніць, у 30-ыя, у гады жорсткай сталінскай дыктатуры. (Дарэчы, партрэты Лукашэнкі й Сталіна цяпер выносяцца на вуліцы падчас усіх імпрэзаў, ладжаных рэжымам).

У краіне на 10 млн. насельніцтва — 130 тыс. паліцэйскіх! Для параўнаньня, у Польшчы на 40 млн. — 105 тыс. Апроч таго за кошт народу ўтрымліваецца шматлікі апарат КДБ і 80-мільённая армія, а таксама прэзыдэнцкая гвардыя, каторая падпарадкоўваецца толькі самому «бацьку». Астатнім нашым людзям застаецца адно: працаваць ды забясьпечваць гэтую армаду ежаю й вопраткаю.

У краіне няма ніякага рэфармаваньня. У нас цяпер такія дэкрэты, што калі нехта патворыць калгас у акцыйнае таварыства, дык будзе сядзець за кратамі разам з Старавойтавым. Усё адзяржаўліваецца, нават дырэктары рынкаў назначаюцца прэзыдэнтам.

Аднак народ пачынае прачынацца. Хутка ён пачне патрабаваць новых прэзыдэнцкіх выбараў. І мы, канечне, лічым, што й сам Лукашэнка, як прэзыдэнт, павінен пайсьці на перавыбары ў будучым гаду. 24 лістапада Вярхоўны Савет праводзіў нараду й прыйшоў да высновы, што 9 лютага будзе праведзеная сэсія й будуць назначаныя выбары прэзыдэнта РБ, як таго патрабуе Канстытуцыя: 20 ліпеня 1999 году спаўняецца пяць гадоў з дня абраньня Лукашэнкі, калі ён даваў прысягу на законнай Канстытуцыі, падпісанай Мечыславам Іванавічам Грыбам у 1994 годзе. Іншай прысягі Лукашэнка не даваў, бо ягоная «канстытуцыя» ёсьць з юрыдычнага пункту гледжаньня жалю варты опус, які скіраваны толькі на тое, каб увекавечыць уладу аднаго чалавека.

У мяне часта пытаюцца, як мы маглі дапусьціць да дыктатуры? Дык жа апошні рэфэрэндум праходзіў у такіх умовах, што ў Менску было гэтулькі войску, як, можа, толькі ў гады Вялікай айчыннай вайны. На плошчах стаялі бронетранспарцёры, а будынак Цэнтрвыбаркама быў абкружаны двума сотнямі аўтаматчыкаў, і я, Старшыня Вярхоўнага Савету, доўга ня мог прарвацца туды. А калі, нарэшце, патрапіў, дык першы й заявіў пра дзяржаўны пераварот. Аўтаматчыкі стаялі на працягу двух тыдняў. І ў гэткіх умовах вёўся падлік галасоў! Не было ніякіх падлікаў: што Лукашэнка назваў, тое й палічылі. А Чарнамырдзін, не чакаючы тых падлікаў, прыслаў свайму сябру віншавальную тэлеграму.

Дыктатарскі рэжым я параўноўваю з ракавою пухлінаю, якая ня можа быць на месцы і цэлы час павінная ўзмацняцца ды пашырацца. Дыктатара нельга перавыхаваць. Усялякія спробы розных міжнародных арганізацыяў перавыхаваць Лукашэнку выніку не дадуць. Гісторыя ня ведае ніводнага такога прыкладу. Ракавую пухліну можна толькі выразаць з арганізму беларускага грамадзтва. Іншага шляху няма. І мы будзем аб'ядноўвацца дзеля гэтага. Будзем аб'ядноўвацца вакол ідэі, што ў нас, сапраўды, акупацыйны рэжым. Сярод дарадчыкаў Лукашэнкі няма ніводнага беларуса: адныя расейскія палкоўнікі. Сёньня беларускай культурай, асьветай і навукай кіруе палкоўнік расейскай арміі Замяталін. Дый сам Лукашэнка беларускай мовай карыстаецца толькі тады, калі трэба некага зьняважыць. Ён жа ня ведае й ніколі не адчуваў сябе беларусам. У свой час Гітлер, аўстрыйскі грамадзянін, казаў, што лёс немцаў вырашаецца, ня ў Аўстрыі, а ў Нямеччыне. Гэтак і Лукашэнка адкрыта заяўляе, што лёс Беларусі вырашаецца ў Расеі.



**СЯРГЕЙ ПАПКОЎ:**

На маю думку, пытаньне сёньня стаіць ня столькі аб правах чалавека ў Беларусі, колькі аб праве нацыі на йснаваньне. Сытуацыя такая, што сёньняшні ўрад Беларусі ня ёсьць самастойны, а толькі частка расейскай структуры, і кіруецца гэты ўрад з Масквы. Фактычна сёньня ў Беларусі — акупацыйны рэжым. Акупаваная ж Беларусь структурамі былога савецкага КДБ. Гаворка пра тое, што СССР распаўся толькі тэрытарыяльна й адміністратыўна, а хрыбет савецкай сыстэмы, усемагутны ЧК, застаўся арганізацыйна-цэласным і праз увесь постсавецкі час дынамічна рэфармаваўся. Гэтая структура ўтварыла шмат падструктураў: арганізацыі й партыі, накшталт РНЕ, «Славянский собор», афіцэрскія саюзы, саюзы казакоў ды іншыя. КДБ трымае ў сваіх руках кантроль над ценявой эканомікай усходнеэўрапейскіх краінаў. Памежныя войскі й мытнікі таксама пад іхнім кантролем. Кадэбоўцы ўзялі пад фізычны кантроль буйных бізнэсмэнаў, банкіраў, шмат якіх палітыкаў. Так што ў 1994 годзе адбыўся ня толькі дзяржаўны пераварот, а й кадэбоўскі экспэрымэнт, спроба сілаў, у выніку чаго да ўлады прыйшоў іхні стаўленік Лукашэнка. І гэта відавочна, бо на ключавых пазыцыях у РБ апынуліся палкоўнікі й генэралы КДБ, якія ў сваю чаргу кіруюцца з Масквы. Фактычна частка зь іх прыкамандыраваная ў Менск, шмат хто зь іх — грамадзяне Расеі.

Што мы павінны рабіць, каб ня даць уцягнуць у расейскія працэсы Беларусь дый усе краіны, якія поясам ідуць па ейнай заходняй мяжы: Эстонія, Латвія, Літва, Беларусь, Украіна? Сёньня, калі кадэбоўскія структуры ў самай Расеі паволі падыходзяць да ўлады й праўдападобна, што ў 2000 годзе яны пасадзяць на расейскі трон свайго стаўленьніка? Нашая задача — не дапусьціць разрыву гэтага поясу, не дапусьціць уваходжаньня Беларусі ў Расею. Пытаньне сёньня ставіцца так, што міжнародная супольнасьць павінная кожную дапамогу Расеі аказваць з умовай, каб яна не прэтэндавала на Беларусь. А мы, з нашага боку, павінныя ў бліжэйшы год-паўтары ўвесьці двоеўладзьдзе ў Беларусі, мэханізм якога мы павінныя распрацаваць, — у гэтым рэчышчы належыць праводзіць усю нашую беларускую працу.

Сёньня ў Беларусі незаўважна й вельмі мякка ўведзенае ваеннае становішча. Адкінутае ўбок заканадаўства, канстытуцыя, уведзены неканстытуцыйны ворган — г. зв. «штаб», у які ўвайшлі ўсе сілавыя міністры, старшыня Савету Міністраў, адміністрацыя прэзыдэнта. Штаб выдае пастановы, якім падначальваецца й Нацыянальны банк, і Савет Міністраў, і палаты, і абласная ды мясцовая вэртыкаль.

Беларускую эканоміку чакае неўзабаве цалкавіты абвал, а таму ўсе жыхары нашай краіны ўзятыя на выпадак бунтаў і дэманстрацыяў пад кантроль: нездарма ў Беларусі падрыхтавана 130 тыс. унутранага войску й міліцыянтаў. У дадатак — адумысловыя падразьдзяленьні падпарадкаваныя аднаму толькі прэзыдэнту.

Прыкмета таго, што лукашэнкаўскі рэжым не самастойны, а толькі частка г. зв. «трэцяй сілы» ў Расеі, — ёсьць тое што для адной маленькай Беларусі гэткай вялікай паліцыйнай арміі не патрэбна. Гэтае войска відавочна рыхтуецца ня толькі для адной Беларусі й Беларусь тут адыйграе ролю трэніровачнай пляцоўкі да плянуемых КДБ падзеяў у самой Расеі ды іншых краінаў былога СССР, а можа й далей.

Беларусы сёньня маюць права на ўсякую абарону сваёй нацыянальнай годнасьці й элемэнтарных чалавечых правоў. Зразумела, мы імкнемся, каб гэтая абарона мела мірныя формы, а гэта, перадусім, стварэньне ў краіне такіх дэмакратычных інстытутаў, на якія б мог у будучым абапірацца наш легітымны парлямант. І міжнародная супольнасьць павінная нам у гэтым дапамагаць, тым больш, што небясьпека трэцяй расейскай сілы гэта небясьпека для ўсіх краінаў і перадусім для Ўкраіны, дзе КДБ таксама добра ўжо распрацавала мэханізмы захопу ўлады. Там кадэбоўцы аднавілі ўсе свае гарызантальныя сувязі, праніклі ва ўрадавыя й прэзыдэнцкія інстытуцыі, дасканаляць мэханізм выцягваньня з Захаду фінансавых сродкаў, якія йдуць не на наладжваньне эканомікі, а на зрошчваньне кадэбоўскіх структураў. Невыпадкова з Прыднястроўя не выводзіцца 14-ая армія, а ў Крыму нагнятаецца шавіністычны псыхоз. Неспакойна й на жабрацкім усходзе Ўкраіны.



**УЛАДЗІМІР НІСЬЦЮК:**

Выбуховая сёньня сытуацыя склалася ў сельскай гаспадарцы. Казка пра рэгулярныя выдачы зарплаты ў Беларусі распаўсюджваецца сярод абывацеляў Расеі й іншых постсавецкіх рэспублікаў — і гэта толькі казка. Сёньня толькі ў с/г дзяржаўная запазычанасьць у зарплаце складае 1,5 трыльёны бел. рублёў. У калгасах па 4 месяцы не атрымліваюць мізэрных заробкаў (10-12$). Людзі пачынаюць галадаць. Выразаецца скот, бо кармоў сёлета не нарыхтавалі з прычыны непагоды й бяздарна праведзенай «барацьбы за ўраджай». Беларусь уваходзіць у зіму напоўгалодная. Перад ад'ездам я гутарыў зь вядомым у Беларусі ў галіне с/г вучоным, членам-карэспандэнтам Акадэміі Навук сп. І. М. Нікішчанкам, які даў інфармацыю, што шэсьць расейскіх рэгіёнаў, каторыя летась пастаўлялі нам пшаніцу для вытворчасьці хлеба, сёлета ад паставак адмовіліся, бо мы не разьлічыліся за мінулыя пастаўкі.

Я калі ў Катавіцах на міжнароднай канфэрэнцыі паведаміў, што ў нас мінімальны заробак складае 1$, дык адзін намібійскі губэрнатар перапытаў: «Гэта што, адзін даляр у гадзіну?» Пасьля таго, як я растлумачыў, пра што гаворка, той намібіец схапіўся за сваю курчавую галаву і мусіць добрую хвіліну сядзеў, хітаючы ёю з боку на бок, мауляў, як можна жыць на такія грошы?

Грамадзка-палітычная сытуацыя абвастраецца. Мы адчулі гэта 24 лістапада, калі, нягледзячы на 15-градусны мароз й жорсткае стаўленьне да дэманстрантаў міліцыі, людзі вечарам, у цемені, прыйшлі на плошчу перад опэрным тэатрам на наш мітынг з нагоды двух гадоў дзяржаўнага перавароту. Нашыя людзі настроеныя цяпер вельмі й вельмі агрэсыўна да ўладаў і нездарма Лукашэнка ў якасьці грамаатводаў падстаўляе сваіх падначаленых і замяняў урад часовым камітэтам, нейкім «штабам».

Сёньня Лукашэнка цераз сваіх памочнікаў ставіць пытаньне ня толькі аб вяртаньні ў Беларусь стратэгічнай ядзернай зброі. Ён цудоўна разумее, што «чемоданчик» ад стратэгічнай зброі знаходзіцца сёньня каля хворага й нямоглага Ельцына. Пытаньне стаіць аб вяртаньні апэратыўна-тактычнай і тактычнай ядзернай зброі, якая кіруецца з пускавой устаноўкі, а не з Крамля. Націснуў кнопку — і 300 ктн могуць ляцець з комплексу «Ака» на 600 км. Вось якую зброю Лукашэнка імкнецца атрымаць.

Тыраж незалежнай прэсы сёньня ў Беларусі складае 6% ад адной толькі прэзыдэнцкай «Советской Белоруссии». Падпісчыкі «Народнай Волі» усе стаяць на ўліку. Я пераканаўся ў гэтым, калі, як дэпутат Стаўпцоўскай выбарчай акругі, запытаўся ў начальніка раённага вузла сувязі, колькі чалавек падпісана на «Народную Волю». Той доўга не шукаў: адразу выклаў перада мною сьпіс! Такое распараджэньне ён атрымаў з райвыканкама. Людзі ў сельскай мясцовасьці проста баяцца выпісваць дэмакратычны беларускі друк.

Падобна, што сёньня апазыцыя гэта ня толькі некалькі дзясяткаў апальных дэпутатаў, ня толькі дэмакратычныя партыі й грамадзкія арганізацыі, — у апазыцыю становіцца ўвесь беларускі народ. Наша задача вярнуць Беларусь у канстытуцыйнае поле, а потым ужо праводзіць дэмакратычныя выбары. Нам патрэбная парляманцкая рэспубліка, а ня новы дыктатар. Спакою рэжыму ў 1999 годзе ня будзе, бо калі мы зараз не пазбавімся беларускай бяды, яна можа стаць трагедыяй для ўсёй Эўропы.

# АПАЗЫЦЫІ



**АЛЕГ ТРУСАЎ:**

Таварыства Беларускай Мовы, намесьнікам старшыні якога я зьяўляюся, знаходзіцца цяпер на пярэднім фроньце барацьбы за нацыянальную адукацыю. Я прывяду афіцыйныя дадзеныя, якія мы зь вялікай цяжкасьцю сабралі, бо такія дадзеныя трымаюцца цяпер у Беларусі пад вялікім сакрэтам. 5-6 гадоў таму ў Менскія школы хадзіла 70% першаклясьнікаў, каторыя вучыліся на беларускай мове. Летась іх было ўжо 7,3%, а сёлета толькі 4%! У такіх вялікіх гарадох, як Пінск, Магілеў, Віцебск, няма ўжо ніводнай беларускай клясы. Выключэньне — горад Ліда, дзе 52% вучняў ходзяць у беларускія клясы, бо тут моцныя пазыцыі ТБМ і людзі натуральна змагаюцца за кожную беларускую клясу.

У нашай арганізацыі апошнім часам быў адабраны офіс, пазаўчора апісалі нашую маёмасьць. Робіцца ўсё, каб нас закрыць. На газэту «Наша Слова» дзяржава раней давала невялікія датацыі, але ўжо вось як два гады яна выходзіць на грошы падпісчыкаў і ахвяраваньні нашых суайчыньнікаў за мяжой. Мы абараняемся, як можам. Толькі ў Менску правялі сёлета 15 пікетаў і два мітынгі, на якіх мы патрабавалі адкрыць у Беларусі хаця б адзін нацыянальны ўнівэрсытэт, дзе б усе прадметы выкладаліся пабеларуску. Мы сабралі ўжо 9 тыс. подпісаў і мы яго адкрыем. Калі ня ўдасца ў Менску, адкрыем у сумежных краінах: у Польшчы, Украіне або ў Літве, як некалі, за панаваньне палякаў, існаваў беларускі ўні-вэрсытэт у Празе.

5 гадоў таму быў створаны беларускі ліцэй. І вось улады ўжо два гады імкнуцца яго зьліквідаваць. Вучні й іхнія бацькі замест таго, каб улетку адпачываць, змушаныя стаяць у пікетах і патрабаваць ад улады тое, што ім і так па праву належыць. Сёлета ліцэй адстаялі, аднак ягоны дырэктар, шчыры беларус Уладзімір Колас быў адхілены й на ягонае месца прызначылі лукашэнкаўскага стаўленіка.

Сытуацыя з роднай мовай у Беларусі гаворыць сёньня пра тое, што людзі, якія зараз пры ўладзе, добра разумеюць, што калі народ размаўляе на сваёй мове, ведае гісторыю й шануе нацыянальную сымболіку, — такі народ назад у імпэрыю не загоніш. Нездарма ў часы Бісмарка, калі трэба было аб'яднаць Нямеччыну, настаўнік нямецкай мовы зарабляў больш афіцэра ў войску. А ў нас цяпер сяржант АМОН зарабляе больш, чым цэлы настаўніцкі калектыў. У сярэднім зарплата настаўніка сёлета склала 10-15$, тое самае ў мэдыкаў, а ў працаўнікоў культуры і пагатоў менш. Аднак даведзены да жабрацтва народ пачынае разумець, што бяз мовы ня будзе й хлеба. Паказальна, што за адно толькі прамінулае лета паўстала 15 новых арганізацыяў ТБМ, нават у раённым цэнтры Касьцюковічы, на самым усходнім ускрайку Беларусі.

Пра становішча з роднай мовай мы паведамляем ва ўплывовыя міжнародныя інстанцыі, у тым ліку ў ААН, і там пра гэта добра ведаюць, бо такой сытуацыі, каб у краіне панавала мова нацменшасьці, а не карэннай большасьці, няма нідзе больш у сьвеце.



**МЕЧЫСЛАЎ ГРЫБ:**

Мы разважаем сёньня аб фэномэне Лукашэнкі. Мы ў свойчас проста пераацанілі ўстанаўленьне дэмакратычных пачаткаў у РБ, думаючы, што яны пусьцілі больш глыбокія карані, чым у сапраўднасьці. Гэта была нашая вялікая памылка. Калі мы прынялі Канстытуцыю, мы пайшлі на выбары прэзыдэнта, і тут, як і ва ўсе часы, адыграла сваю ролю расейскае кіраўніцтва. Бо ні ўчора, ні сёньня, ні заўтра яно не пагодзіцца, што з-пад кантроля Расеі выходзяць рэспублікі, цэлыя рэгіёны, у тым ліку й Літва. Ня думайце, што расейскае кіраўніцтва спакойна мірыцца з тым, што Літва адасобілася. Яму проста не ўдалося зрабіць у Літве тое, што ўдалося ў Беларусі. Масква зрабіла стаўку на Лукашэнку й пакуль што не расчаравалася ў ім. Толькі цяпер Лукашэнка зразумеў, што ён ад Расеі можа атрымаць нешта большае, і з васальскіх прэтэнзіяў пераходзіць на каралеўскія. Ён бачыць, што ў Маскве цяпер хісткa, што ёсьць магчымасьць пагуляць на расейскім палітычным полі.

Сёньня службы бясьпекі Расеі выношваюць пляны скасаваньня дэмакратыі ў краінах былога сацыялістычнага лягеру. І калі Лукашэнка дойдзе да ўлады ў Расеі, дык цяжка будзе не адной толькі Беларусі. Мы гэта ўжо бачым, бо жывем ва ўмовах дыктатуры, бачым, як тое адбываецца. Расея сыграла на тым, што частка насельніцтва настальгіравала аб сваім савецкім, хоць і жабрацкім, але адносна стабільным мінулым. Шматлікія недахопы зьвязваліся з кабінэтам Кебіча. Знайшоўся папуліст, які абяцаў з усімі разабрацца, усё наладзіць, усё запусьціць і ўсім зрабіць цудоўнае жыцьцё.

Быў першы рэфэрэндум, майскі, якому мы, дэпутаты, не прыдалі дастатковага значэньня, дый ня ведалі, што такое рэфэрэндум, бо ён быў першы. Цяпер ведаем, што гэта вельмі вострая зброя, зь якой трэба абыходзіцца вельмі асьцярожна. Так мы страцілі нашую нацыянальную сымболіку. Аднак калі апазыцыя вернецца да ўлады, наш сьцяг і герб будзе вернуты без усялякіх рэфэрэндумаў — праз Канстытуцыйны Суд. Што тычыцца другога рэфэрэндума, дык тут ужо чыстай вады фальсыфікацыя: і ў падрыхтоўцы, і ў правядзеньні. Ніхто дагэтуль ня можа дакладна сказаць, колькі было бюлетнёў надрукавана, бо іх рабіла адміністрацыя прэзыдэнта, невядома, дзе, каму й колькі тых бюлетнёў было раздадзена. Незаконным чынам разагналі выбарчую камісію, а старшыня Цэнтрвыбаркама, Віктар Ганчар, быў фактычна вынесены на руках з будынку. А яшчэ на працягу трох тыдняў праводзілася датэрміновае галасаваньне, за якое кожны дзень агітаваў з экрана тэлевізара Аляксандар Грыгоравіч, нават спаборніцтва абвесьцілі, хто хутчэй прагаласуе да дня рэфэрэндуму. І галасавалі. Былі факты, калі вурны датэрміновага галасаваньня цалкам падмяняліся. Напрыклад, назіральнікі кідалі бюлетні ў вурны з сваімі паметкамі, а пасьля не знаходзілі іх там. Назаўтра пасьля галасаваньня ўсе бюлетні былі зьнішчаныя — і канцы ў ваду! Аніякіх сьлядоў, апроч пратаколу лукашэнкаўскай лічыльнай камісіі... Вось так пачынаўся, паводле нашае ацэнкі й ацэнкі міжнароднай грамадзкасьці, дзяржаўны пераварот.

*Працяг у наступным нумары*

## Крыніцы асабістага даходу Лукашэнкі

Завялікія амбіцыі прэзыдэнта — царстваваньне ў агромністай Азіопіі, а затым і ва ўсім праваслаўным царстве — патрабуюць вялікіх грошай. Высокі пост, адсутнасьць усялякіх маральных прынцыпаў і выгаднае геаграфічнае становішча маленькай Рэспублікі азёраў і лясоў даюць яму магчымасьць «хапнуць» некалькі мяхоў даляраў.

...Адным з асноўных крыніцаў — гэта продаж зброі, амаль трэцяя частка якой засталася ад сканалай імпэрыі. Па ацэнках экспэртаў сумы складаюць больш за мільярд даляраў. Так што, калі дзесь на плянэце йдзе лякальная вайна ці тэрарысты захапілі заложнікаў — ня выключана, што скарыстоўваецца менавіта гэтая зброя.

Другой крыніцай зьяўляецца звычайная камэрцыйная дзейнасьць. Кіраўніцтва справа-мі прэзыдэнта стварыла шэраг камэрцыйных фірмаў, вызваленых ад усялякіх падаткаў. Такіх фірмаў штосьці каля двухсот, аднак найбольш заўважнымі й прыбытковымі зьяўляюцца «Ворэкспо» й «Фонд Известного Танцора». Асноўны асартымэнт гэтых фірмаў складаюць гарэлка, цыгарэты ды аўтамабілі... Гадавы прыбытак — каля мільярду даляраў. Фактычна гэтыя грошы скрадзеныя ў даверлівага народу...

Наступнай «прыстойнай» крыніцай зьяўляецца эксплятацыя гаталяў, дамоў адпачынку, санаторыяў ці проста ўпадабаных будынкаў у сталіцы й іншых гарадах рэспублікі. Гэтыя будынкі фактычна адбіраюцца ва ўласьнікаў. Часам нахабства кіруючай «верхушки» не мае межаў... Гадавы прыбытак — каля 800 млн. даляраў.

Абедзьве гэтыя крыніцы кантралююцца правай рукой Лукашэнкі «завхозом Ванюшей». Меншая частка грошай — каля 500 млн. даляраў — захоўваецца на асобным рахунку прэзыдэнта «в Оцечэстве», большая — звыш мільярда даляраў — за мяжой: Нямеччына, Швайцарыя, Аргентына.

Ёсьць і іншыя крыніцы прыбытку. Напрыклад, адна вядомая замежная фірма, рызыкнуўшы падзарабіць, выплочвае падатак ведамству «завхоза Ванюши», назамест таго, каб плаціць іх дзяржаве. Грубае вымагальніцтва (фактычна той самы рэкет) кіраўніцтва справа-мі прэзыдэнта мела месца і ў дачыненьні да розных гуманітарных фондаў. Альтэрнатыва гэткая: палову грошай прэзыдэнту, а на рэшту можаце быць гуманнымі, колькі заўгодна. У іншым выпадку — вымятайцеся з Рэспублікі азёраў і лясоў... Уціск аказваўся вельмі грубы, гуманітарныя грузы арыштоўваліся, нават лекі, якія хутка псаваліся. Быў нават сьмяротны выпадак: дзяўчыне патрэбен быў інсулін, якога ў аптэках не было, тады як агромністая партыя лекаў была затрыманая й захоўвалася ў нейкай непрыстасаваным для захоўваньня спортзалі... Дзяўчынка памерла.

Наступная крыніца прыбытку ёсьць яшчэ больш сакрэтная, чым папярэднія, але затое рэгулярная. Яна пад кантролем сакратара Рады Бясьпекі таварыша Шэльмана. У яго маецца цікавая папка з дакумантамі, якую можна было б назваць гэтак : «Структура бандфармаваньняў рэспублікі». Дадзеныя падзеленыя па гарадах: колькасьць групаў, кіраўніцтва, аб'ём кантралюемага капіталу, прыбытак, тэлефоны, прозьвішчы й мянушка аўтарытэту, колькасьць кожнае групы... Усе яны абкладзеныя падаткам, зразумела, на чыю карысьць... Злосныя неплацельшчыкі караюцца. За ўвесь час кіраваньня Лукашэнкі не было ніводнага буйнога працэсу, зьвязанага зь ліквідацыяй банды. Ніводзін завадатар ня сеў у турму, наадварот, гэта паважаныя людзі, якія лічаць за вялікі гонар запрасіць на розныя неафіцыйныя імпрэзы. Затое вельмі шмат людзей, якія селі нізавошта...

Ня вельмі арыгінальнай, але досыць стабільнай, зьяўляецца яшчэ адна крыніца прыбытку прэзыдэнта. У свойчас ён дазволіў «святым отцам» праваслаўнай царквы бязпошлінна гандляваць гарэлкаю. На выгнаньне Хрыстом гандляроў з храму «святые отцы» пасьпяхова забыліся й энэргічна распачалі гандаль «зелёным змием». Як вада з-пад крана пацяклі даляры. «Отцы» нарадавацца ня могуць. Ды вось бяда — аб гэнай цудадзейнай крыніцы не забыў і прэзыдэнт, растлумачыўшы агаломшаным «отцам», што «Господь велел делиться», пэрыядычна выціскае з царкоўнай касы патрэбную порцыю «зялёных»... Прычым так бесцэрымонна, што нават «смиренные отцы» пачынаюць абурацца...

Зараз прэзыдэнта не хвалюе, што дзякуючы яму 90 адсотак насельніцтва жабракі. Яны ж усё адно вераць, што ён «чэсны», як той цыган, што прадае на кірмашы коней. Вераць нават у тое, што прэзыдэнт можа кіраваць законамі эканомікі й прыроды, у тое, што спыніць абвал «зайчыка». А калі зьнікнуць з крамаў вопратка й прадукты — паверацъ, што гэта прошукі імпэрыялістаў. Хутчэй за ўсё амэрыканскіх...

*Былы афіцэр «спэцслужбы», а зараз пэнсіянер* **Урал Латыпа**
***(«Выбар» N24/98)***



Здымак Генадзя Жынкова

# Зноў прыйшоў к нам Новы год

## Новы год

*Новы год! Новы год!*
*Пачынаем карагод!*
*Закружылася ля ёлкі*
*Наша дружная сям'я,*
*Закружыліся іголкі,*
*Закружылася зямля.*
*Закружыўся белы дзед,*
*Закружыўся цэлы сьвет!*

*А на ёлцы — цацак, цацак!*
*Рыбкі, дырыжаблікі.*
*Нібы росныя, іскрацца*
*На галінах яблыкі.*
*І дрыжаць, зіхцяць яе*
*Срэбраныя бусы.*
*Дзед цукеркі раздае*
*Ды сьмяецца ў вусы.*

(*Паводле* **Н. Гілевіча**)

## Ёлачка-красуня

*Ёлачка-красуня*
*У бары жыла,*
*Пад дажджлівым небам*
*Дужала, расла.*

*Мылася расою,*
*Мылася дажджом,*
*Твар свой выцірала*
*промнем-ручніком.*

*Гаманіла з хвояй,*
*Роднаю сястрой,*
*Апранала футра*
*Белаю зімой.*

*А цяпер у залі*
*Ёлачка стаіць,*
*Цацкамі, агнямі*
*зьзяе, зіхаціць!*

(*Паводле* **В. Карпечанкі**)

## Ёлачка-бароўка

*Ёлачка-бароўка*
*Ў хату да цяпла*
*Ад зладзюгі-воўка*
*З бору уцякла.*
*Ў пацеркі-каралі*
*Ёлачку прыбралі.*
*Запалілі зорку —*
*Пачалі гаворку.*
*Скокнула пад ёлку*
*Спрытная вавёрка.*
*Пачынаюць гулі*
*дудары-музыкі.*
*— Разьвяжы, дзядуля,*
*Свой мяшок вялікі!*

(*Паводле* **Д. Бічэль-Загнетавай**)

## Навагодняя песьня

*Дзе пушчы ды балоты,*
*Між елак і бяроз*
*На лыжах па сумётах*
*Шыбуе Дзед Мароз.*

*Зіхцяцца, як карункі,*
*Сьняжынкі ў барадзе,*
*А ў торбе падарункі*
*Дзіцячай грамадзе.*

*І радасна на сьвяце,*
*І весела да сьлёз,*
*Калі у цёплай хаце*
*Гасьцюе Дзед Мароз.*

(*Паводле* **С. Сокалава-Воюша**)



*Малюнак* **Алега Аблажэя**

## Ёлачка

*Ёлачка, ёлачка,*
*Са сьцюдзёнай вуліцы!*
*Ёдкія іголачкі*
*Да галінак туляцца.*

*Мы гальлё зялёнае*
*Апранем вясёлачкай.*
*Самае ўлюбёнае —*
*Гэта сьвята зь ёлачкай!*

(*Паводле* **С. Сокалава-Воюша**)

## Зноў прыйшоў к нам Новы год

*Пасінеў на рэчках лёд,*
*Неба ў ясных зорках.*
*Зноў прыйшоў к нам Новы год*
*Зь песьнямі і ёлкай.*

*Водзіць з намі карагод*
*Сам Мароз-дзядуля.*
*Многа казак у яго*
*І вясёлых гульняў.*

(*Паводле* **М. Чарняўскага**)



**Алег Аблажэй**

# Броўнаўскія думкі

® Што беларускі прэзыдэнт ды ягоны ўрад хварэюць на сіндром «маладзейшага брата» – агульнавядома. Але ці не такі самы сіндром праяўляецца ў літоўскай палітыцы? Толькі «старэйшыя браты» інакшыя: НАТО, ЕС. Ды сутнасьць тая самая: мы, маўляў, слабенькія, вось бы прыгарнуцца да кагось моцнага, а то прападзем.

А вось фіны так ня думалі. І выйгралі.

А нашыя ўсё грукаюцца, скуголячы, у эўрапэйскія дзьверы...

® Беларуская апазыцыя часам зьвяртаецца да літоўскіх кіруючых колаў – падтрымайце, дапамажэце. Але для такой падтрымкі не патрэбныя ні ноты, ні пратэсты, ні гуманітарная дапамога. Для гэтага проста трэба ў сваёй краіне, у Літве, збудаваць такое грамадзтва, якое сьведчыла б сваім прыкладам, што толькі дэмакратыя й незалежнасьць могуць забясьпечыць годнае жыцьцё.

А пакуль Літва займае першае месца ў сьвеце па... самагубствах!

® Вялікія грошы, бы шкло акварыюму, аддаляюць асобу ад усяго астатняга грамадзтва й яна зусім не арыентуецца, чым жывуць тыя астатнія. Адна асоба ў тэлевізійным інтэрвію цалкам шчыра пераконвала, што абутак лепш купляць у Парыжы – і выбар большы, і цэны не вышэйшыя, чым у нас... Ці многія могуць пакарыстацца такой парадай?

® «Уся надзея – на Эўропу! Усе беды – ад Расеі!» І неяк не ўспамінаюць, што й камунізм, і фашызм, а яшчэ даўней інквізіцыя нарадзіліся не ў Расеі, а ў Эўропе....

Так антысэміты, размахваючы праваслаўнымі харугвамі, ня цямяць, якой нацыянальнасьці была Маці Божая...

® Усходнеэўрапэйцы ня любяць расейцаў – і слушна: гэта ж расейскія цёмныя, нямытыя й хамскія орды адарвалі іх ад астатняй Эўропы, спынілі разьвіцьцё, зьняважылі годнасьць, гвалцілі ды крыўдзілі. І ў той самы час грамадзяне гэтых краінаў адчуваюць, што гэтыя «чортавы рускія» маюць у сабе такія якасьці й здольныя на таія рэчы, якія й ня сьніліся астатняй Эўропе.

І за гэта яны ненавідзяць расейцаў яшчэ больш.

® Камунізм – як кароста: да здаровага ды чыстага цела не прыстае.

® Так мала рэчаў залежыць ад нас – мы не выбіраем ані бацькоў, ані нацыянальнасьці, ані радзімы, ані месца й часу нараджэньня, ані талентаў, якімі надзеленыя ці абдзеленыя...

І ўсім гэтым кіруе нейкі нябачны і ўсемагутны Рэжысёр.

А мы – нам нават сцэнары невядомы!

® Умець цьвяроза ацэньваць свае здольнасьці – таксама своеасаблівы талент.

® Кажуць, што паэты не павінныя пісаць у вершах пра сваю сьмерць – бо ўсё напісанае збываецца.

Гэта датычыцца ня толькі паэтаў. Колісь на мітынгах часта гучала думка – няхай будзем голыя, босыя й галодныя, затое вольныя.

І ўсё збылося!

® Пляшка, пастаўленая паэту ці мастаку пры жыцьці, больш вартая, чым залаты помнік на ягонай магіле.

## ШАНОЎНЫЯ ЧЫТАЧЫ

Ужо трэці нумар «Руні» выходзіць цалкам на вашыя ахвяраваньні, а таксама на грошы з падпіскі й продажы газэты. Іншых крыніцаў існаваньня газэта пакуль што ня мае. Сябры рэдакцыі заробкаў не атрымліваюць, працуюць на арэндаваным абсталяваньні. Апроч таго ў Літве сёлета ў два разы павялічыліся паштовыя выдаткі: перасылка адной газэты цяпер каштуе прыкладна 0, 5$. Дзеля таго, каб наша й ваша газэта існавала надалей, мы вельмі спадзяемся на вашую падпіску й дапамогу ў 1999 год.

Як мы ўжо паведамлялі чытачам далёкага замежжа, да нас з найменшымі стратамі даходзяць імянныя чэкі. Дасылайце іх на адрас рэдакцыі рэдактару Алегу Мінкіну (**Oleg Minkin**) або сакратару Паўлу Саўчанку (**Pavel Savcenko**). Кошт падпіскі на год – **20$**.

Жыхары Літвы могуць падпісацца ў памешканьні рэдакцыі або ў кожным аддзяленьні сувязі. Падпісны індэкс газэты – **0187**. Кошт падпіскі на год – **12 Lt**.

Падпішчыкам у Беларусі паведамляем адрас у Гродна: *230023 Гродна, п/с 194, Данухе Бічэль-Загнетавай.* Кошт падпіскі на год – сума ў беларускіх рублях эквівалентная **3$** (паводле камэрцыйнага курсу).

Падпішчыкам у Расеі паведамляем адрас у Санкт-Пецярбурзе: *191028 Санкт-Петербург, ул. Сикейроса 6-1-364, Ковалюк Евгении Трафимовне.* Кошт падпіскі на год – сума ў расейскіх рублях эквівалентная **5$** (паводле камэрцыйнага курсу).

Падпішчыкам у Польшчы паведамляем адрас у Беластоку: *Wieslaw Choruzy, Porosly 18 «а», 16-006 Barszczewo.* Кошт падпіскі на год – сума ў злотых эквівалентная **10$**.

Вялікая просьба пры перасылцы грошай указваць дакладны паштовы індэкс і адрас.

Спадзяемся на вашую дапамогу й разуменьне таго, як важна адрадзіць і захаваць беларускі друк менавіта ў Вільні, нашай старажытнай сталіцы.

Да сустрэчы ў 1999 годзе!



Меркаваньні рэдакцыі не заўсёды супадаюць з пазыцыяй аўтараў



РУНЬ газэта беларусаў Літвы

выходзіць адзін раз на месяц
заснавальнік і выдавец
**Таварыства Беларускай Культуры ў Літве**
адрас рэдакцыі:
**2001 Yilnius, Žygimantų 12-3**
тэлефоны: **42 38 02, 61 65 32**
Факс: **481862**
друк: **АТ « Спаўда»**
замова ___
наклад **1000** асобнікаў
Сябры рэдакцыі:
**Алег Мінкін** - рэдактар
**Павал Саўчанка** - сакратар
**Алег Аблажэй** - мастацкі рэдактар
**Сяргей Вітушка** - гісторыя й этнаграфія
**Андрэй Цярэньцеў** - рэкляма й інфармацыя